# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№1(5)
СТУДЗЕНЬ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

## КОНКУРС «ЧАЛАВЕК ХХ-га СТАГОДДЗЯ»



На працягу 48 гадоў навуковай дзейнасці Я.Ф.Карскі напісаў 96 кніг, 143 артыкулы і нататкі, 777 водгукаў, рэцэнзій, анатацый, крытыка-бібліяграфічных работ. Усяго акадэмік надрукаваў 1026 прац.

У свой час славуты рускі акадэмік П.А.Растаргуеў сказаў: "Па вывучэнню беларускай мовы і яе гаворак акадэмікам Я.Ф.Карскім зроблена вельмі многа, можа больш, чым па вывучэнні іншых сучасных гаворак рускай мовы. Кожны беларус, які любіць сваю мову, павінен з вялікай удзячнасцю адносіцца да Я.Ф.Карскага, які аддаў усё сваё жыццё вывучэнню беларускай мовы".

Наш зямляк з вёскі Лаша Гродзенскага раёна, акадэмік, сусветна прызнаны вучоны Яўхім Фёдаравіч Карскі памёр 29 красавіка 1931 года.

## АБ`ЯВА ДЛЯ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Рэдакцыя газеты сумесна з краязнаўчай камісіяй Гродзенскага аддзялення БФК аб'вяшчае конкурс **"Гісторыя майго роду"** для студэнцкай і вучнёўскай моладзі.

Конкурс праводзіцца ў гонар заснавальніка беларусазнаўства і беларускай філалогіі, выдатнага філолага-славіста, нашага славутага земляка акадэміка Яўхіма Карскага, 140-годдзе з дня нараджэння і 70-годдзе з дня канчыны якога адзначаецца ў гэтым годзе.

Конкурс мае сваёй мэтай абуджэнне зацікаўленасці моладзі генеалагічнымі і краязнаўчымі доследамі, выхаванні павагі да старэйшых і даўнейшых пакаленняў, набыццё навыкаў гістарыяграфічнай і архівальнай працы.

**Зацікаўленых маладых краязнаўцаў, сяброў школьных краязнаўчых** гурткоў і аб'яднанняў і іх кіраўнікоў просім прысылаць асабовыя і калектыўныя заяўкі з папярэдняй назвай тэмы, дакладнага адрасу **да 20 лютага** на адрас рэдакцыі.

**(Працяг на 4-й, 5-й, 6-й стар.)**

## ПРАВЯЛІ КАНФЕРЭНЦЫЮ...

19-21 студзеня ў Гродне адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы айчыннай гістарыяграфіі", арганізаваная Беларускім гістарычным таварыствам.

На кожным паседжанні разглядалася канкрэтная тэматыка – "Праблемы гістарычнай навукі на Беларусі", "Святовая гісторыя ў Беларусі: даследаванні, праблемы, перспектывы", "Гісторыя Беларусі ХХ-га стагоддзя. Праблемы гістарыяграфіі", "Беларуская гістарыяграфія Вялікага Княства Літоўскага", "Праблемы гістарычнай адукацыі на Беларусі".

З паведамленнямі выступілі вядомыя вучоныя з Мінска, Гродна, Гомеля, Беластока, Полацка – В. Голубеў, П. Лойка, В. Швед, У. Навіцкі, С. Куль-Сяльверстава, Я. Мірановіч, А. Латышонак і іншыя.

Адзін з арганізатараў канферэнцыі, доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч (Гродна) адзначыў важнасць узнятай выступоўцамі тэматыкі. Выказана думка, што ў апошнія гады праблемы гістарычнай навукі амаль не абмяркоўваюцца.

## ... І ПЕРШЫ З'ЕЗД БГТ

Удзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі правялі першы з'езд Беларускага гістарычнага таварыства.

Быў зацверджаны статут, прыняты да ведама відарыс эмблемы.

Выканкам узначаліў доктар гістарычных навук А. Краўцэвіч.

У перспектыўным плане работы навукоўцы пазначылі, у прыватнасці, неабходнасць выдання сваіх даследаванняў. Штогод плануецца ладзіць навуковыя сустрэчы.

**"КГ"**

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# УСЕ РАЗАМ І КОЖНЫ ПААСОБКУ

**Не першы год абласны Савет Гродзенскага аддзялення Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ўзначальве Д. С.Аляшкевіч. З ім гутарка карэспандэнта "Краязнаўчай газеты".**

**— Дзмітрый Сцяпанавіч, за мінулае дзесяцігоддзе знікла нямала арганізацый, а Таварыства трымаецца. У чым яго моц?**

— Нас таксама закранулі перамены. Засталося толькі пяць раённых Саветаў – Воранаўскі, Дзятлаўскі, Іўеўскі, Мастоўскі і Астравецкі. Адноўлена 53 пярвічныя арганізацыі, у тым ліку ў Гродне – 15.

Сіла наша, думаю, у рабоце. Мяркуйце самі, у вобласці 1987 помнікаў гісторыі і культуры. У тым ліку, гісторыі –1165, археалагічных – 402, архітэктуры – 380, мастацтва – 40. Пад аховай дзяржавы знаходзяцца 835 аб'ектаў, 517 з якіх маюць статус рэспубліканскага значэння, і 318 – мясцовага. Такая гаспадарка патрабуе вывучэння, аховы, кансервацыі, аднаўлення, папулярызацыі сярод насельніцтва сродкамі агітацыі і прапаганды. Людзі павінны ведаць сваю багатую гістарычную і культурную спадчыну. Гэтым і займаемся…

**— У мінулым годзе святкавалася 55-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Таварыства, як і ўсе краязнаўцы вобласці, шмат парупілася аб раскрыцці невядомых і малавядомых старонак той вайны…**

— На тэрыторыі Гродзеншчыны загінула 49.809 воінаў Савецкай Арміі і партызан. Вядомы імёны толькі 9.538 чалавек. Штогод на абеліскках з'яўляюцца новыя прозвішчы. Летась выявілі дадзеныя аб 16 асобах. Няшмат, але тым не менш. Гэтая праца працягваецца і, відаць, не скончыцца ніколі. Хлопцы адыходзілі на вайну з прозвішчамі і імёнамі. І не маглі знікнуць бясследна. Трэба шукаць, выкарыстоўваць самую маленькую магчымасць вяртання з забыцця памяць пра людзей.

У 2000 годзе наша Гродзенскае аддзяленне Таварыства напачатку правяло сумесна з абласным Саветам ветэранаў паседжанне. Узгаднілі мерапрыемствы, якія ўзяліся арганізаваць. Быў праведзены конкурс сярод мясцовых СМІ на лепшыя матэрыялы па азначанай тэматыцы, арганізаваны прэзідыумам Таварыства. Праводзілася чарговая міжнародная канферэнцыя для студэнтаў "Жывая памяць пакаленняў", конкурсы "Я гэтым горадам апекаваны", "Лідэр пазашкольнай адукацыі і выхавання" .

Наогул, мы актыўна ўдзельнічаем у герояка-патрыятычным выхаванні моладзі. Адрамантавалі 63 помнікі абаронцам Айчыны. Устанавілі тры новыя абеліскі. Добраўпарадкавалі 700 пахаванняў ахвяраў фашызму і воінаў-землякоў.

**— Адзін з асноўных кірункаў дзейнасці Таварыства заключаецца ў прапагандзе помнікаў і гісторыка-краязнаўчых ведаў. Што маецца на ўвазе?**

— Найперш, арганізацыя і вывучэнне працоўнага і баявога мінулага нашага краю, услаўленне подзвігаў землякоў, зварот да помнікаў мінулых стагоддзяў, асобаў, якія пакінулі след у гісторыі. Напрыклад, у мінулым годзе выкарыстоўвалася шмат матэрыялаў краязнаўцаў у час гутарак са школьнікамі на тэмы барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Моладзь павінна ведаць колькі вёсак на Гродзеншчыне сталі мясцовымі Хатынямі, колькі і чаго нарабаванага гітлераўцы вывезлі з нашага краю. Яшчэ жывуць ветэраны Вялікай Айчыннай. Трэба паўней выкарыстоўваць гэты фактар у патрыятычным выхаванні.

**— Краязнаўчы рух у вобласці і раней, і цяпер – з'ява даволі прыкметная. Наколькі Таварыства кантактуе з прыхільнікамі мінуўшчыны Гродзеншчыны? Ці прыносіць карысць гэтае ўзаемадзеянне?**

— Зноў нельга абмінуць лічбы. У школах і ПТВ дзейнічае зараз 98 музеяў, з якіх баявой Славы – 17, гісторыка-краязнаўчых – 63. Вядома, хто збіраў экспанаты, рабіў стэнды, а сёння распавядае гасцям пра сабранае – краязнаўцы. Таварыства выдае многа кніг, брашур, буклетаў. Яны складаюцца з матэрыялаў, распрацаваных краязнаўцамі. Іх голас гучыць на гісторыка-краязнаўчых канферэнцыях, якія праводзяцца ў раёнах. У пачатку красавіка адбудзецца чарговая, 18-я па ліку, у Бераставіцы. Будуць агучаны, напрыклад, такія тэмы, як "Бераставіцкая зямля вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў", "Бераставіччына вачыма этнографа, "Помнікі Бераставіцкага раёна ў апісаннях П.О.Баброўскага", "Мястэчка Бераставіца ў першай палове 19-га стагоддзя" і інш.

Штогод сябры нашага Таварыства друкуюць да 600 матэрыялаў. Шмат публікацый краязнаўцаў з месц. Яшчэ ў пачатку 90-х гадоў мы надрукавалі першы зборнік "Наш радавод". Усяго такіх кніг выдадзена шэсць. Сёння выдаецца часопіс "Лідскі летапісец", які рэдагуе спадар Сліўкін. Вызначаюцца сваімі публікацыямі краязнаўцы А.Палубінскі са Свіслачы, Ігар Усціменка з вёскі Міхалішкі Астравецкага раёна, І.Говар, І.Буйко з Іўя…

Так што ў краязнаўцаў наперадзе шмат работы і цікавых адкрыццяў. Галоўнае, лічу, каб была галоснасць у гэтай важнай справе.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

*СКАРБЫ ГРОДЗЕНСКАЙ ЗЯМЛІ*



Руіны Лідскага замка. 1929. Малюнак Язэпа Драздовіча

■ КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ

# ПАЭТЫЧНАЯ ЗОРКА БЕЛАРУСІ

Душою і сэрцам ухваляю аб'яўлены "Краязнаўчай газетай" конкурс "Чалавек ХХ-га стагоддзя". З цікавасцю прачытаў публікацыю пра шматбаковую творчую дзейнасць Юрыя Астроўскага, чалавека вялікага таленту і вялікага патрыёта Беларусі. Больш было б у нашым краі такіх мудрых і мужных людзей – і старонка наша любая ды яе народ зажылі б добра і шчасліва.

Хачу выказаць і сваю прапанову. Чалавекам ХХ-га стагоддзя мы павінны лічыць знакамітую паэтэсу-зямлячку Цётку (Алаізу Пашкевіч). Гэта адна з найбольш яркіх паэтычных зорак Беларусі побач з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам. А ўзяць грамадскую дзейнасць мілай Пашкевічанкі, як яе ласкава называлі ў роднай астрынска-васілішкаўскай старане! Непахісная і бясстрашная змагарка супраць царскага прыгнёту, мужная заступніца простага люду, міласэрная і самаахвярная дакторка, ратуючая сялян у час эпідэміі, не зважаючы на сваё здароўе, яна аддала жыццё за лепшую долю народа.


Цётка (Алаіза Пашкевіч) 1876-1916

Цётку, мяркую, можна назваць Праведніцай свету. І вельмі балюча, што імя паэткі-рэвалюцыянеркі слаба ўшанавана не толькі ў краіне, але і на Гродзеншчыне. На Украіне і ў Польшчы лепшыя вуліцы многіх гарадоў носяць імёны Лесі Украінкі і Элізы Ажэшкі. А ў нас няпроста сустрэць такі знак увагі ў адносінах да Цёткі. У Лідзе ад яе вуліцы на ўскраіне горада застаўся непрык-метны завулак. Тое ж атрымалася і з вуліцай Янкі Купалы, што ў цэнтры горада, — ад яе мала што засталося ў выніку новага будаўніцтва.

Думаецца, у першым годзе новага веку, на які прыпадаюць 125-я ўгодкі любай Пашкевічанкі, краязнаўцы Гродзеншчыны лепшым чынам уславяць імя Цёткі.

**Алесь Жалкоўскі**

# ЕЎРАРЭГІЁН "НЁМАН" І КРАЯЗНАЎСТВА

Больш трох гадоў існуе еўрарэгіён "Нёман". 6 чэрвеня 1997 года прадстаўнікі Беларусі, Літвы і Польшчы падпісалі ў Аўгустове статутнае пагадненне, мэтамі ягога было трансгранічнае супрацоўніцтва, рэгіянальнае (тэрытарыяльнае) планаванне, развіццё грамадскай інфраструктуры, турызму, ахова навакольнага асяроддзя.

Геапалітычнае становішча Гродзеншчыны дае вялізны шанец яе насельніцтву мець дадатковы прыбытак, а краязнаўству – культурную спадчыну, якая належыць тром суседскім народам, нясе аграмадны патэнцыял для развіцця турызму, зноў жа, як эканамічнай катэгорыі.

На жаль, нягледзячы на падтрымку міжнародных структур, у прыватнасці, арганізацыі еўрапейскага супольніцтва "Tacis" справа жыццяздольнасці еўрарэгіёна вельмі марудна насычаецца канкрэтнымі справамі.

Як нам здаецца, мы маем, апрача агульна зразумелай адсутнасці інвестыцый, яшчэ іншыя фактары, якія затрымліваюць выкарыстанне нашага рэгіянальнага багацця. Гэта адсутнасць сапраўднай сістэмы мясцовага самакіравання, рэгіянальнай ініцыятывы, а таксама вельмі дрэнна распрацаваныя турыстычныя шляхі.


Шлюз у Аўгустове. 1857 г. Малюнак А. Місеровіча

Зразумела, якасныя маршруты з адпаведнай інфраструктурай нам не створыць у бліжэйшай будучыні. Але ці не па сілах хутка распрацаваць эфектыўныя праекты моладзевага і спартыўнага турызму, і гэтак важкі для суседняй Польшчы – мемарыяльны турызм? Тут не патрэбны значныя капіталаўкладанні. Патрэбны прадуманыя маршруты, забяспечаныя экалагічна і праваахоўна.

Над гэтымі маршрутамі трэба і працаваць краязнаўчым аб'яднанням. Тут справа залежыць не толькі ад выкарыстання нашых знакамітых гістарычных, архітэктурных, сакральных каштоўнасцяў. Чакаюць вывучэння "белыя плямы" на мапе помнікаў прыроды, краявідаў, сюжэты незвычайнага расліннага і жывёльнага свету.

Чакаюць апісання і азначэння ўтульныя і выгодныя месцы стаянак, прыгодныя для пешаходнага, роварнага, воднага, чыгуначнага і змешаных маршрутаў.

Ведаем, што шмат у гэтай галіне ўжо напрацавана. Таму і звяртаемся да чытачоў "Краязнаўчай газеты": пішыце нам аб сваіх напрацоўках, будзем допісы публікаваць, каб гэтым найперш маглі карыстацца школьнікі Гродзеншчыны ў час канікулярных і вольных дзён.

Нам трэба падумаць пра стварэнне банка дадзеных аб краязнаўчых і турыстычных вандроўках па Прынямонні, і гэта можа быць адным з галоўных мэтаў краязнаўчых аб'яднанняў. Магчыма тады мы паступова пераўтворымся ці аб'яднаемся ў турыстычна-краязнаўчае таварыства Гродзеншчыны па ўзору суседняй Польшчы, каб больш паспяхова выконваць выгодную для нашага насельніцтва і еўрарэгіёна "Нёман" задачу развіцця ўстойлівага турызму.

**Андрэй Майсяёнак,**
**старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, прафесар.**

■ АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ

# Я.Ф. КАРСКІ – ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІК

## (Хроніка жыцця і дзейнасці)

**(Працяг. Пач. на 1-й стар.)**

1.01.1861 – у сям'і настаўніка пачатковай школы Ф.Навіцкага і М.Каршчанкі ў в.Лаша Гродзенскай губерні (зараз Гродзенскі р-н) нарадзіўся сын Яўхім.

1874 – Закончыў народнае вучылішча ў в. Ятра (потым Бярозавец) Навагрудскага павету, паступае ў Мінскае духоўнае вучылішча, пасля – у Мінскую духоўную семінарыю.

1881 – Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут імя графа Кушалёва-Безбародкі. Прымае прозвішча маці.

1884 – Праца "Белорусские песни села Берёзовка Новогрудского уезда Минской губернии".

1885 – Праца "Обзор звуков и форм белорусской речи".

1887 – Праца "Два новых источника для изучения белорусских говоров. Белорусский сборник Е.Романова. Т.1 (Киев, 1886). Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. П.Шейна., т.1, ч.1.

1888 – Падручнік для сярэдняй школы "Грамматика древнего церковно-славянского языка сравнительно с русским" (вытрымаў 19 выданняў).

1889 – Праца "Белорусские песни деревни Новосёлок-Затрокский Виленской губернии Трокского уезда".

1890 – Праца "Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края" П.Шейна., т.1, ч.2.

1893 – Выкладчык Варшаўскага універсітэта. Працы "К истории звуков и форм белорусской речи", "К вопросу о разработке старого западнорусского наречия", "Два памятника старого западнорусского наречия: 1) Лютеранский катехизис 1562 г. 2) Католический катехизис 1585 г.". Савет Кіеўскага універсітэта прысуджае вучоную ступень магістра рускай мовы і славеснасці па даследаванні беларускай мовы (першая ў гісторыі дысертацыя па беларускім мовазнаўстве).

1894 – Прафесар Варшаўскага універсітэта. Праца "О языке так называемых литовских летописей". За навуковыя працы па беларускай этнаграфіі Савет рускага геаграфічнага таварыства ўзнагароджвае Я.Карскага Вялікім залатым медалём.

1896 – Праца "Западнорусские переводы псалтыри в 15-17-м вв.", Прысвоена вучоная ступень доктара філалогіі ў Маскоўскім універсітэце. Член Археалагічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства.

1897 – Ардынарны прафесар Варшаўскага універсітэта. Працы "Программы для собирания особенностей говоров. III. Программа для собирания особенностей говоров белорусского наречия". "Западнобелорусский сборник 15 в., принадлежащий Государственной Публичной библиотеке, Q. 1, № 391. Палеографические особенности, состав и язык рукописи", "Из лекций по славянской кирилловской палеографии в Варшавском университете".



1898 – Праца "Западнорусское сказание о Сивилле – пророчице по рукописи 16-го в. Тексты сказания, его состав и язык". Член-карэспандэнт Таварыства прыхільнікаў старажытнага пісьменства. Расійская Акадэмія Навук прысуджае залаты медаль імя Бацюшкава за глыбокі аналіз працы П.Шэйна "Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края".

1899 – Працы "Особенности письма и языка рукописного сборника 15 в., именуемого Летописью Авраамки", "О влиянии поэтической деятельности А.С.Пушкина на развитие русского литературного языка", "Надпись Самуила 993 г.".

1890-1900 – Навуковая экспедыцыя ў Гродзенскую, Віленскую, Мінскую губерні для вывучэння народных гаворак.

1901 – Праца "Очерк славянской кирилловской палеографии". Расійская Акадэмія Навук узнагароджвае малой Ламаносаўскай прэміяй. Член-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі Навук па Аддзяленні рускай мовы і славеснасці.

1902 – Працы "К вопросу о влиянии литовского и латинского языков на белорусское наречие". "Два новых сборника белорусских сказок" (О книгах Романова и Федоровского). Дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта.

За агляд беларускіх этнаграфічных прац Е.Раманава ўзнагароджваецца залатым медалём імя Бацюшкава.

1903 – Праца "Белорусы. Т.1. Введение в изучение языка и народной словесности. С приложением двух карт",

1905-1910 – Рэктар Варшаўскага універсітэта.

1905-1917 – Рэдактар "Русского филологического вестника".

1908 – Праца "Белорусы. Т.2-й. Язык белорусского племени, 1. Исторический очерк звуков белорусского наречия".

1910 – Узнарагоджанне акадэмічнай прэміяй імя Бацюшкава.

1911 – Праца "Белорусы. Т.2-й. Язык белорусского племени, 2. Исторический очерк словообразования и словоизменения в белорусском наречии".

1912 – Працы "Значение М.В.Ломоносова в развитии русского литературного языка", "Белорусы. Т.2-й. Язык белорусского племени, 3. Очерки синтаксиса белорусского наречия. Дополнения и поправки".

1913 – Узнагароджанне акадэмічнай прэміяй імя Шахматава.

1915-1916 – Разам з Варшаўскім універсітэтам эвакуіруецца ў Растоў-на-Доне.

1916 – Праца "Белорусы. Т. 3-й. Очерки словесности белорусского племени. 1. Народная поэзия". Ардынарны акадэмік Расійскай Акадэміі Навук па Аддзяленні рускай мовы і славеснасці.

1917 – Прафесар Петраградскага універсітэта. Дэлегат і ганаровы старшыня Усебеларускага З'езду. Праца "Этнографическая карта белорусского племени".

1918 – Прафесар Мінскага педагагічнага інстытута.

1919 – Старшыня арганізацыйнай камісіі па адкрыцці Белдзяржуніверсітэта.

1920-1928 – Прафесар Петраградскага-Ленінградскага універсітэта, член Праўлення і Прэзідыума Акадэміі Навук. Дырэктар музея антрапалогіі і этнаграфіі. Старшыня Слоўнікавай камісіі. Старшыня камісіі па рускай мове. Рэдактар часопіса "Известия ОРЯС АН".

1921 – Праца "Белорусы. Т. 3-й. Очерки словесности белорусского племени, 2. Старая западнорусская письменность".

1922 – Правадзейны член Інстытута беларускай культуры. Працы "Белорусы. Т. 3-й. Очерки словесности белорусского племени. 3. Художественная литература на народном языке", "А.А.Шахматов как историк русского языка", "К столетию со дня выхода "Institutiones" И.Добровского".

1924 – Навуковая камандзіроўка ў Югаславію. Дэлегат Першага міжнароднага з'езда славянскіх географаў і этнографаў. Працы "Русская диалектология". Праца "Культурные завоевания русского языка в старину на западной окраине его области".

1925 – Ганаровы член Таварыства аматараў расійскай славеснасці.

1926 – Праца "Очерк научной разработки русского языка в пределах СССР"

1927 – Ганаровы член Таварыства пісьменнасці і мастацтва ў Ленінградзе.

1928 – Праца "Славянская кирилловская палеография".

1929 – Праца "Наблюдения в области синтаксиса Лаврентьевского списка летописи".

Правадзейны член Чэшскай Акадэміі Навук.

1930 – Працы "К истории белорусского языка в 17-м столетии", "Червенский говор",

29.4.1931 — Яўхім Федаравіч Карскі памёр. Пахаваны ў Санкт-Пецярбургу.

**Л.Турмасава,**
**загадчыца аддзела краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф. Карскага.**

# ЧЫТАННІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ АКАДЭМІКУ



Навуковыя чытанні ў гонар Я.Ф.Карскага, які нарадзіўся на Гродзеншчыне, праводзяцца ў ГрДУ імя Янкі Купалы з 1990 года. Матэрыялы чытанняў выдаюцца асобным зборнікам. Вось якія тэмы ўздымалі вучоныя і краязнаўцы:

■ Са спадчыны Я.Карскага. Навуковыя чытанні да 130-годдзя з дня нараджэння. Гродна, 15 студзеня 1991 г. (20 арт.).

■ Шануючы спадчыну Я.Карскага. 2-я навуковыя чытанні. Гродна, 18 снежня 1991г. (20 арт.).

■ Шануючы спадчыну Я.Карскага. 3-я навуковыя чытанні. Гродна, 1992 г. (55 арт.).

■ Шануючы спадчыну Я.Карскага. 4-я навуковыя чытанні. Гродна, 14-15 снежня 1993 г. У 2-х частках (77 арт.).

■ Функцыянальны аспект апісання моўных сістэм. 5-я Карскія міжнародныя чытанні. Гродна, 14-15 снежня, 1994 г. (47 арт.).

■ Е.Карский и современное языкознание. Материалы 6-х научных чтений. Гродно, 25-26 января 1996 г. В 2-х частях (93 статьи).

■ Вопросы функциональной грамматики. Дополнительный материал 6-х Карских чтений. Гродно, 25-26 января 1996г. (Отв.редактор М.И.Конюшкевич, 13 статей).

■ Антроцентричный підхід у дослідженні мови. Матер.7-х міжнар. Карских чит. Ніжин-Гродна, 13-14 травня 1998 г. (115 статей).

■ Язык в свете классического наследия и современных парадигм. Тезисы докладов 8-х международных Карских чтений. Минск-Гродно, 14-16 декабря 2000 г. (61 тезис).

■ Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Спецвыпуск да 140-годдзя акадэміка Я.Карскага. Гродна, 2000 г. (44 арт.).

**На здымку: Заслужаны настаўнік Беларусі А.П. Цыхун падпісвае прафесарам М.І. Канюшкевіч і Л.В. Судавічэне сваю кніжку пра Я. Карскага**

**(Працяг на 6-й стар.)**

# Я.Ф. КАРСКІ – ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІК

(Заканчэнне. Пач. на 1-й, 4-5-й стар.)

## ЗАСНАВАЛЬНІК НАВУКОВАГА БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА

Ён заклаў трывалы падмурак вывучэння беларускага народу і стварыў эпоху ў беларусазнаўстве. Разам з такімі сучаснікамі, як М.Доўнар-Запольскі, Е.Раманаў, М.Янчук, А.Сапуноў, А.Ельскі, М.Нікіфароўскі, Д.Даўгяла быў універсалам у даследаванні народу і яго духоўнага жыцця. Сам час – канец 19-га – пачатак 20-га стагоддзя – патрабаваў глыбокай і аб'ектыўнай трактоўкі беларусаў як нацыі. Гэты ж час ды родная зямля нарадзілі асобу Я.Карскага, яго магутны навуковы талент, маштабную паводле ажыццёўленых задум дзейнасць.

Доктар філалагічных навук (1896), прафесар (1894), акадэмік Пецярбургскай Акадэміі навук (1916), акадэмік Чэшскай Акадэміі навук (1929), ён быў вядомым беларускім філолагам-славістам, мовазнаўцам, літаратуразнаўцам, фалькларыстам, этнографам, археографам, палеографам, бібліёграфам. Апублікаваў больш за 100 навуковых прац, у тым ліку 96 асобнымі выданнямі. Большасць іх прысвечана Беларусі.

Самае значнае даследаванне – манаграфія "Беларусы", якая складаецца з сямі буйнафарматных кніг, выходзіла на працягу 1903-1922 гадоў у Варшаве, Маскве, Петраградзе. У гэтай працы асвятляецца паходжанне беларусаў, уся тагачасная літаратура пра іх, паказваюцца межы іх этнічнай тэрыторыі, разглядаецца велізарны комплекс старажытных пісьмовых помнікаў, гісторыя і граматычныя асаблівасці беларускай мовы, гісторыя беларускай літаратуры, фальклорна-этнаграфічная спадчына народу. Манаграфію з поўным правам можна назваць энцыклапедыяй беларусазнаўства. Рускі акадэмік Б.Ляпуноў адзначаў, што такога даследавання не напісана ні аб адным славянскім народзе.

Характэрна, што працуючы прафесарам Варшаўскага універсітэта (1893-1916) і будучы вучоным акадэмічнага плана, Я.Карскі не стаяў у баку ад грамадска-палітычнага жыцця на радзіме. Ліставаўся з беларускімі пісьменнікамі і навукоўцамі, падтрымліваў нацыянальна-культурны рух студэнтаў-беларусаў у Пецярбургу, тэатральную дзейнасць І.Буйніцкага, газеты "Наша ніва".

У 1917-1919 гг. ён – у Мінску, у цэнтры палітычных падзей. Прымае ўдзел у Усебеларускім кангрэсе (снежань 1917), становіцца адным з арганізатараў і выкладчыкаў Мінскага педагагічнага інстытута, распрацоўвае статут і праграму Беларускага дзяржаўнага універсітэта, затым – Інстытута беларускай культуры. Пазней, вымушаны жыць у Ленінградзе, вучоны душой заставаўся з бацькаўшчынай, трымаў з ёю сталыя сувязі, перадаў у Мінск сваю вельмі багатую спадчыну.

Сёння трэба нарэшце перавыдаць манаграфію "Беларусы" і паставіць у Гродне помнік вялікаму сыну нашай зямлі.

**Аляксей Пяткевіч**

## Апанас Цыхун і яго кніга




Апанас Цыхун — вядомая асоба не толькі на Гродзеншчыне. І не толькі тым, што нарадзіўся 5 мая 1910 года, што Заслужаны настаўнік Беларусі, былы шматгадовы дырэктар шэрагу васьмігодак.

Але найперш сваім нястомным жыццём краязнаўцы, збіральнікам беларускіх народных песень Гродзенскага раёна, аўтар зборнікаў "Песьні з народных глыбіняў", "Скарбы народнай мовы", "Легенды і былі Гродзеншчыны".

Знакамітая брашура "Акадэмік з вёскі Лаша Я.Ф.Карскі (краязнаўча-бібліяграфічны нарыс)" была выдадзена ў 1992 годзе. Прысвечана жыццю і дзейнасці акадэміка, заснавальніка беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі Яўхіма Фёдаравіча Карскага.

Апанас Пятровіч здзейсніў уласны подзвіг: сабраў багаты матэрыял пра вучонага. Здзіўляе грунтоўны падыход аўтара да расповяду пра свайго героя. Не сухія друкаваныя радкі бачым мы перад вачыма, а шырокае пярэстае палатно з мінулага жыцця. Паэтычна апеты родныя мясціны малога яшчэ Яўхіма. Падаюцца гісторыка-геаграфічныя падрабязнасці вёскі Лаша, навакольных паселішчаў.

Трэба ведаць характар Апанаса Пятровіча і не здзіўляцца прыведзеным шматлікім рэдкім фактам. Гэты чалавек "пералапаціў" горы літаратуры, але дамогся свайго – стварыў жыццяпіс няўрымслівага, тытанічнага вучонага. Па ўпартасці яны не саступаюць адзін другому. Абодва дасягалі сваіх вышынь уласным мазалём, памножаным на працалюбства і натхнёнасць.

Кніга пра акадэміка Карскага – справа ўсяго жыцця Апанаса Цыхуна. Напачатку былі асобныя артыкулы ў друку. У 1964 годзе ён арганізаваў і адкрыў у Лашы мемарыяльны музей вучонага. Падыходзячы да напісання кнігі, вёў перапіску з дзесяткамі асобаў, збіраў рэдкія фотаздымкі Яўхіма Фёдаравіча. Усё гэта практычна размешчана ў зборніку.

Апанас Пятровіч вярнуў акадэміка-беларуса на радзіму. Цяпер – назаўсёды.

**Сцяпан Ярашчук**

■ **НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА**

# КРЫЖ НА ЎСКРАІНЕ ВЁСКІ

Рэдка якая вёска ў Беларусі абыходзіцца без такіх крыжоў. Яны бываюць розныя. Больш даўнія, выкаваныя мясцовымі кавалямі ці зробленыя ў фабрычных умовах, умацаваны на пірамідках з прыгожых валуноў, маюць жалезную агароджу. Сучасныя – "адчулі" на сабе тэхнічны прагрэс: трубы злучаны электразваркай, упрыгожаны рознакаляровымі поліэтыленавымі лентамі.

У час жалобных працэсій абавязкова спыняюцца каля крыжа: вёска развітваецца з нябожчыкам. Далей у царкву або на могілкі яго праводзяць родныя і больш блізкія людзі. Таму і ставяць крыжы пры дарозе, па якой з вёскі выязджаюць да царквы ці касцёла, у тым канцы вёскі, які бліжэй да храма.

Хтосьці з родных у час апошняга развітання просіць тут прабачэння ў аднавяскоўцаў за тое, у чым, можа, правініўся перад імі нябожчык. Некаторыя разумеюць віну ці доўг у літаральным сэнсе. Так, аднойчы давялося чуць, як прыбіты горам бацька ад імя заўчасна памерлага сына абяцаў нават тут жа, на месцы, выплаціць любую суму грошай, калі сын пры жыцці не разлічыўся з кімсьці за даўгі.

Луцкаўлянскія вучні-краязнаўцы сабралі звесткі пра крыжы ў навакольных вёсках, зрабілі копіі подпісаў на іх. Самым старым аказаўся крыж у в. Рагачы — 1883 год. У тыя ж часы былі змайстраваны крыжы ў Балічах (1886 г.), Сухой Даліне (1887 г.), Кунцаўшчыне (1888 г.), Баброўніках (1889 г.).

Усе гэтыя вёскі адносяцца да Лашанскай царкоўнай парафіі. Тут кампанію па замене драўляных крыжоў на больш даўгавечныя правялі ў канцы XIX-га стагоддзя. Прастаялі яны ўжо больш стагоддзя, ніякім палітычным ладам, якія часта мяняліся, яны не перашкаджалі, бо рэлігія выхоўвае ў людзях пакорлівасць.

У вёсках, якія адносяцца да Індурскай царквы, крыжы пастаўлены перад Першай Сусветнай вайной. Складаны лёс у праваслаўнага луцкаўлянскага крыжа. Устаноўлены ў 1912 годзе, ён прастаяў на ўскраіне вёскі больш паўвека. А потым, выцеснены новабудоўлямі, двойчы пераносіўся і, нарэшце, апынуўся на могілках, вядомых у акрузе пад назвай Калачык.

У 1999 годзе ўпершыню ў вёсцы з'явіўся каталіцкі крыж. Некалькі месяцаў назад – праваслаўны, новай канструкцыі. На шліфаваных каменных плітах крыжоў – глыбока выбітыя словы-просьбы. Аб чым жа прасілі людзі, чаго яны чакалі ад нябесных сіл, да якіх з'вярталіся ад сябе і нашчадкаў? Малілі пасланць здароўе, збаўленне ад ліха, любога няшчасця, у тым ліку голаду, пажараў. Найчасцей гэтыя думкі выказаны адной фазай: "Спаси, Господи, люди твоя".

З дахрысціянскіх, язычніцкіх часоў жыве ў людзей вера ў тое, што можна святым дрэвам ці нейкім другім знакам абараніцца ад злых духаў. Вось і хрысціянская царква, якая канчаткова ўсталявалася на тэрыторыі Беларусі каля 700 гадоў назад, выкарыстала гэты звычай, паставіўшы ў вёсках хаця б па аднаму такому абярогу (у адной з вёсак школьнага мікрараёна іх стаіць аж сем). І другое. Зараз незаўсёды мы ўбачым крыж менавіта на ўскраіне вёскі, бо новае будаўніцтва пашырала граніцы населенага пункта, хаты "крочылі" далей крыжоў (Пракопавічы, Бялява, Сухая Даліна, Вялікія Кавалічы).

Вось яны, гэтыя крыжы на ўскраіне вёскі! Не спяшайцеся прамінуць іх, затрымайцеся ў роздуме. Аб іх. Аб людзях, што збудавалі крыжы. Аб лёсе іншых аднавяскоўцаў. І аб сваім лёсе таксама.

Зусім не дробязныя пачуцці крануць ваша сэрца…

**Уладзімір Козыраў,**
**краязнаўца, настаўнік гісторыі Луцкаўлянскай СШ Гродзенскага раёна.**

# У ГОНАР СЛАВУТАГА ГРОДЗЕНЦА

У снежні 2000 года ў Гродне адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Гарадзенскія чытанні памяці Юзафа Ядкоўскага". Навукоўцы, краязнаўцы, нумізматы з Мінска, Варшавы, Гродна, Беластока, Магілёва ушанавалі памяць гісторыка, археолага, нумізмата – ураджэнца нашага горада Юзафа Ядкоўскага. 20 снежня гэтаму чалавеку споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння.

Канферэнцыю адкрыла доктар гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава. На пленарным паседжанні прагучалі даклады, якія тычыліся выключна дзейнасці Ю.Ядкоўскага ў Гродне і Гродзеншчыне.

Кандыдат гістарычных навук, дацэнт ГрДУ В.Швед раскрыў тэму "Ю.Ядкоўскі як краязнаўца", Ежы Пінінскі – "Працы Ю.Ядкоўскага па нумізматыцы", загадчык аддзела старадрукаў музея В.Шоцік – "Роля Ю.Ядкоўскага ў стварэнні кнігазбору ГДГАМ", галоўны захавальнік фондаў ГДГАМ С.Палхоўская – "Калекцыя негатываў на шкле з фондаў музея".


Юзаф Ядкоўскі (20.10.1890 - 2.04-1950)

У час канферэнцыі працавалі секцыі гістарычнага краязнаўства і нумізматыкі, дзе з навуковымі паведамленнямі выступілі вучоныя і аспіранты Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы — С.Токць, С.Куль-Сяльверстава, Т.Богуш, Н.Банцэвіч, В.Белазаровіч, С.Слобік, краязнаўцы В.Какарэка, К.Рудніцкі, І.Масько, В.Філонаў, даследчыкі з Польшчы В.Капіцкі і К.Філіпаў.

Арганізатарамі канферэнцыі былі Беларускае нумізматычнае таварыства (старшыня В.Какарэка) і Навукова-даследчая лабараторыя праблемаў рэгіянальнай культуры ГрДУ імя Янкі Купалы (загадчык С.Я.Куль-Сяльверстава).

**Ванда Шоцік**

■ ЖЫВЁМ НА ЗЯМЛІ АДНОЙ

# ФЕСТЫВАЛЬ ЯЎРЭЙСКАЙ КНІГІ

“Шэсць стагоддзяў на гродзенскай зямлі” – пад такой назвай у Гродне 22 кастрычніка адбыўся абшчынны фестываль яўрэйскай кнігі.

Гісторыкі, краязнаўцы, прадстаўнікі саюза яўрэйскіх абшчынаў Беларусі, амерыканскага яўрэйскага камітэта “Джойнт”, іншых зацікаўленых арганізацый правялі паседжанне за “круглым сталом”. Адметная размова вялася аб магчымых шляхах аднаўлення жыцця яўрэйскіх абшчынаў і захавання багатай гісторыка-культурнай спадчыны раней шматлікага яўрэйскага насельніцтва Гродна і ўсёй Беларусі.

Шматгранную культуру яўрэяў Гродзеншчыны праславілі стваральнік мовы эсперанта Заменгоф, скульптар Гінзбург, мастак Бакст, паэт Найдус, рэлігійны дзеяч Нохум Каплан і іншыя. Пра лёс гэтых асобаў, далейшае грамадскае жыццё абшчыны гаварылі прафесары Дз. Караў, І. Розенфельд, А.Майсяёнак, дацэнты В.Швед, І. Герасімава, М.Майсюкевіч, краязнаўцы А.Госцеў. Ф.Ігнатовіч, старшыня Саюза яўрэйскіх абшчын Беларусі Л.Левін і інш.

У рамках фестывалю адбылася прэзентацыя кнігі “Яўрэі Гродна”, у стварэнні якой вызначыліся В.Сабалеўская і М. Кемераў.

Была праведзена выстаўка кніг, фотаздымкаў, паштовак, якія адлюстроўваюць гісторыю і дзейнасць яўрэяў Гродзеншчыны.

Унікальнай падзеяй фестывалю стала прадстаўленне тэлефільма і матэрыялаў вывучэння наднёманскіх яўрэйскіх могілак. Гэтую задумку ажыццявілі амерыканскі студэнт-палітолаг Эрык Адлер і яго добраахвотная памочніца – студэнтка Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы К.Суворына. Дзякуючы іх самаахвярнай працы гродзенскім краязнаўцам і мясцовай абшчыне сталі вядомымі 1840 імён (772 з прозвішчамі) гарадзенцаў, якія жылі тут і знайшлі вечнае супакаенне з 1784 па 1968 гады.

**А. Дісанак**

# ПРАЧЫТАЦЬ, КАБ ВЕДАЦЬ

Кніга “Яўрэі Гродна” распавядае пра гісторыю гродзенскай яўрэйскай абшчыны з 14-га па 20-е стагоддзе. Увагай не абыйдзены тагачасныя падзеі, знакамітыя асобы навукі і культуры.

С. Піваварчык, В. Сабалеўская, А. Чарнякевіч, І. Герасімава, М. Кемераў, Ф. Ігнатовіч, І. Куксін, А. Глагоўская, І. Карпюк, Р. Хосід аналізуюць жыццё гродзенскіх яўрэяў у розныя часы.

Шмат новага чытач даведаецца, напрыклад, пра славутага яўрэйскага паэта Лейбу Найдуса (1890-1918), вядомую даследчыцу заходнебеларускай грамадска-палітычнай бывальшчыны Аляксандру Бергман (Эву Квачкоўскую), незабыўнага праведніка Нохума Каплана (1812-1879).

Кніга выдадзена намаганнямі Беларускага дзяржаўнага музея




гісторыі рэлігіі, грамадскага аб’яднання “Гродзенскі яўрэйскі абшчынны дом Менора” і Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры. Замежнымі партнёрамі былі арганізацыя “Джойнт” і “Інстытут у падтрымку дэмакратыі ва Усходняй Еўропе”.

**Сцяпан Ярашчук**

# ПРЫМЕМ УДЗЕЛ У КОНКУРСЕ!

БРАСЛАЎШЧЫНА, ГЛЫБОЧЧЫНА, МЁРШЧЫНА, ПАСТАЎШЧЫНА, ШАРКОЎШЧЫНА
№ 13(13), лістапад, 2000 год. KRESY
**Краязнаўца Паазер`я**
КРАЯЗНАЎЧЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЕТЫ «КРЭСЫ»

Не першы год выдаецца краязнаўчы дадатак да газеты “Крэсы” – “Краязнаўца Паазер’я”.

У нумары за лістапад 2000 года абвешчаны конкурс “Мой радавод: лёс сям’і ў ХХ-м стагоддзі”.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца вучні школ (пачынаючы з 7-га класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная – сачыненне, эсэ, інтэрв’ю, калаж з фотаздымкаў, фільм і інш. Пажадана працу выконваць на беларускай мове. Неабходна далучыць анкету ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго адрасам і назвай працы. Працу трэба даслаць у адным асобніку да 1-га мая 2001 года на адрас: а/с 128, 220064, Мінск. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль (тэл. 8-017-227-51-09).

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 8 ліпеня гэтага года.

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ

Аргкамітэт міжнародных навуковых Доўнараўскіх чытанняў паведамляе, што правядзенне 3-х чытанняў плануецца 14-15 верасня 2001 г. у гор. Рэчыца Гомельскай вобласці. Тэматыка чарговых чытанняў будзе прысвечана жыццю, дзейнасці і навуковай спадчыне М.В.Доўнар-Запольскага, а таксама краязнаўству і фальклору Рэчыцкага рэгіёна.

Для ўдзелу ў чытаннях неабходна да 1 ліпеня гг. даслаць на адрас аргкамітэта заяўку з указаннем тэмы паведамлення.

Запрашэнні ўдзельнікам будуць дасланы дадаткова. Выдаткі па пражыванню і харчаванню аргкамітэт бярэ на сябе.

Адрас аргкамітэта: кафедра эканамічных тэорый Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны. Вул. Савецкая, 104, 246019, г. Гомель, Беларусь.

Кантактны тэлефон (0232) 57-16-35.
E-mail: sorvirov@gsu.unibel.by

Сакратар аргкамітэта Валянціна Міхайлаўна Лебедзева (0232) 51-95-64.
E-mail: lebedeva@gsu.unibel.by

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»
Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.
Наклад 299 асобнікаў. Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук. Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі
Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"